*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*




# КАРДОН

**№14**
**верасень**
**2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

## ВІНШУЕМ НАСТАЎНІКАЎ З ІХ ПРАФЕСІЙНЫМ СВЯТАМ !



*Усе кветкі восені – настаўнікам !*

Гэты дзень – свята для ўсіх. Кожны з нас некалі быў вучнем. Кожнага прыветліва сустрэлі і павялі ў краіну ведаў настаўнікі. Яны вучылі нас не толькі чытаць і пісаць, але і быць сапраўднымі людзьмі, любіць сваю Беларусь і ўсё жывое на зямлі.

Жыццё Настаўніка ніколі не было лёгкім. Яно патрабуе штодзённага напружання, самааддачы і нават самаахвярнасці. Асабліва цяжка настаўнікам цяпер, калі яны, як і большасць нашага народа, даведзены да галечы. Але пачуццё адказнасці за лёс кожнага дзіцяці і ўсёй нашай шматпакутнай Радзімы даюць ім сілу і мужнасць насуперак перашкодам выхоўваць сапраўдных сыноў і дачок для новай, будучай Беларусі.

Шчодрага вам плёну, дарагія руплiўцы педагагічнай нівы!

***Бешанковiцкая суполка***
***Таварыства беларускай мовы***

## ПОМНІК АХВЯРАМ ХІРАСІМЫ, НАГАСАКІ І ЧАРНОБЫЛЯ



У Мінску на плошчы Незалежнасці каля касцёла Святых Сымона і Алены з'явіўся незвычайны помнік – "Звон Ангел". Гэты звон – дакладная копія звона з разбуранага ядзерным узрывам каталіцкага храма Уракамі ў горадзе Нагасакі. Звон адліты майстрамі калакольнага ліцця, усе выдаткі аплочаны японцамі.

Усе ядзерныя трагедыі XX стагоддзя з'яўляюцца вынікам чалавечага бязвер'я, бездухоўнасці і страты сумлення. Як напамін аб гэтых трагедыях і перасцярога чалавецтву будзе стаяць гэты помнік. Пазней плануецца побач узвесці пантэон з зямлёй з усіх месц, дзе адбыліся атамныя катастрофы.

## *Радзіма*

Дзе бярозавы гай
Летам песні птушыныя гушкае,
Дзе гамоніць са мной,
Быццам з сябрам сваім, вецярок,
Есць краіна адна,
Да якой пералётнаю птушкаю
Я імкнуся заўсёды
З жыцця майго пыльных дарог.

Тут наўкола ўсё
Як было ад дзяцінства ад самага
Можа толькі бярозкі змяніліся,
сталі вышэй.
Ды на ганку мяне
Не страчае матуля ласкавая,
Патухае і ў бацькі
Святло васільковых вачэй.

Абыходжу сяло.
Толькі сэрцу балюча прызнацца,
Хоць яшчэ ахінае яго
Белы бусел крылом,
Паміраe сяло,
Засталося хат дзесяць-дванаццаць
Дзе яшчэ раніцою
Уюцца дымкі над жытлом.

Тут няма ўжо даўно
Ні радзін, ні хрысцін, ні вяселляў.
На сяле ўжо ніколі ніхто не пяе...
У апусцелых падворках
І ластаўкі нават не селяцца,
Іх не вабяць яны,
Як людскога цяпла не стае.

Ад згрызотаў сумлення,
Адчаю, нясцерпнага болю
Тут, на роднай зямлі
Ля пахілых магільных крыжоў,
Быццам здраднік які,
Што згубіў назаўжды сваю долю,
Я стаю і маўчу.
Вось табе і прыехаў дамоў...

***Г. СТАНКЕВІЧ***

Падборку новых вершаў Станкевіча чытайце на старонцы 2.

# НОВЫЯ ВЕРШЫ ГЕОРГІЯ СТАНКЕВІЧА



***У нашага сябра Георгія Станкевіча – Дзень нараджэння. І хоць сам Георгій зараз далёка за мяжой нашай краіны зарабляе грошы на аплату вучобы ў Лінгвістычным універсітэце, мы шчыра віншуем яго з гэтай нагоды і змяшчаем падборку ягоных вершаў. Спадзяемся, што вярнуўшыся, Георгій парадуе чытачоў сваімі новымі цудоўнымі шчырымі вершамі і дасціпнымі замалёўкамі з жыцця, якія часта упрыгожваюць старонкі нашага выдання.***

## *РОДНАЕ*

Усё, што ёсць у мяне ў гэтым свеце–
Ад бацькі і маці.
Абавязаны я кожным крокам
Бацькоўскае хаце,

Каласкам, што шапталіся ў полі
Са мной пры спатканні.
Зоркам, што ў чыстым небе дрыжэлі
Парой да світання,

Ці то пыльнай, ці гразкай
Калеістай роднай дарозе,
Што вяла мяне ў свет
Ад бацькоўскага проста парога.

І духмянай, з агню,
Ды заўсёды жаданай скарынцы,
І агеньчыку ў полі –
Далёкай маленькай іскрынцы.

Гэта ўсё застанецца ў сэрцы,
Напэўна, да скону.
Гэта ўсё не аддам
Ні за якія грошы нікому.

## *ПРА СЯБЕ*

У двухтысячны год уступаю
З дваякім настроем,
Да яго падыйшоў я,
Здаецца, ужо не малады.
Трыццаць сем за спіной,
А ўсё роўна няма мне спакою,
Трыццаць сем за спіной,
Толькі дзе яны, тыя гады?

Да гадоў двадцаці
Грыз навуку, пацеў не на жарты,
Усё бег за жар-птушкай,
А час так марудна ішоў.
Я тады зразумеў,
За той птушкай
Мне бегчы не варта,
Бо жыццё не якое-нібудзь
Забаўляльнае шоу.

Навучыўся тады працаваць
Ва ўсялякім я разе,
І не бралі мяне
Ні ламота, ні холад, ні спёк.
А яшчэ – будаваў камунізм
У асобным калгасе,
Кіраваў камсамолам,
Ды толькі адтуль я уцёк.

Пакахаў, ажаніўся,
І сын ужо лыжку трымае.
Давядзецца яму
Тую птушку шукаць на зямлі.
Я шчаслівы,
Таму што чыноў і пасадаў не маю,
Што аднойчы паспеў
Атрымаць канчатковы разлік.

Пакаленню майму перажыць
Выпаў час адмысловы:
Кожны з нас даганяе
Стагоддзя імклівага бег.
Я ламаю цяпер галаву
Над нямецкаю мовай
І знаходжу у тым асалоду
І радасць сабе.

Спачуваю сябрам і знаёмым
І простаму люду,
Хто не здолеў адразу
Намацаць сваёй каляі.
Ненавіджу ліслівасць,
Пакорнасць, прадажных Іудаў,
Ды не хопіць жыцця,
Каб іх звесці на нашай зямлі.

Вось таму і двухтысячны год
Не змяняе настрою.
Век прамчаўся двадцаты,
Наступны памчыць нікуды.
Што ні здарыцца ў ім –
Застануся самім я сабою.
Трыдцаць сем за спіной,
Ды ўсе помню я тыя гады!

# ШТО ТАКОЕ АПАЗІЦЫЯ

Апазіцыя ў любой краіне- гэта людзі, не згодныя з той палітыкай, якую праводзіць улада. У Беларусі апазіцыя не згодная з парушэннямі законаў, ростам цэн, нізкім узроўнем жыцця, міжнароднай ізаляцыяй краіны. А Вы згодныя?

Людзі павінны мець магчымасць кантраляваць тых, каго яны выбралі. Ніводзін кіраўнік сам не скажа, што яго трэба замяніць. Вось для такога кантролю і існуе апазіцыя. Просты рабочы ці калгаснік не можа разабрацца ва ўсіх пытаннях дзяржаўнага кіравання. А апазіцыя мае спецыялістаў і можа выявіць злоўжыванні ўлады і прапанаваць сваю праграму дзеянняў.

Беларуская апазіцыя аб'ядноўвае розных людзей. У яе складзе палітычныя партыі, незалежныя прафсаюзы і некалькі соцен грамадскіх арганізацый. У апазіцыя шмат вядомых людзей, якія не ўваходзяць у партыі, напрыклад пісьменнікі Васіль Быкаў і Святлана Алексіевіч, кінарэжысёры Юрый Хашчавацкі і Віктар Дашук, акадэмікі Радзім Гарэцкі і Іван Нікітчанка, вядомыя юрысты, эканамісты, выкладчыкі і кіраўнікі прадпрыемстваў. А галоўнае – у апазіцыі тысячы і дзесяткі тысяч простых грамадзян, якія хочуць перамен да лепшага.

Роля апазіцыі не толькі ў акцыях пратэсту. Апазіцыя мае распрацаваную і апублікаваную ў незалежных газетах Стратэгію развіцця Беларусі і эканамічныя праграмы. Толькі ўлада не выкарыстоўвае гэтыя напрацоўкі.

Апазіцыя байкатуе выбары ў Палату прадстаўнікоў, таму што ўмовы правядзення гэтых выбараў не даюць надзеі на справядлівасць. Апазіцыя будзе вылучаць агульнага кандыдата ў прэзідэнты, які здолее вывесці краіну на цывілізаваны шлях развіцця і захаваць яе незалежнасць і самабытнасць.

***Я. МІРОН***

# "ВЫБАРЧАМУ ФАРСУ – БАЙКОТ", ВЫРАШЫЛА АГП

***Напачатку верасня прайшоў пяты з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Мы ўзялі інтэрв'ю ў дэлегата з'езда, члена Нацыянальнага камітэта АГП настаўніка Рубежскай сярэдняй школы Пятра Галыні. Вось што ён расказаў:***

"Адным з галоўных на з'ездзе было пытанне аб адносінах партыі да выбараў у Палату прадстаўнікоў, якія намечаны на 15 кастрычніка. Пераважная большасць дэлегатаў з'езду, у тым ліку "аб'яднаныя грамадзяне" Віцебскай вобласці , вырашылі , што партыя не павінна ўдзельнічаць у выбарчым фарсе. Матывацыя такога рашэння ў тым, што не былі выкананы чатыры ўмовы правядзення выбараў, якія выстаўлялі міжнародныя арганізацыі для таго, каб выбары былі прызнаны дэмакратычнымі. Паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў не адпавядаюць рэальным паўнамоцтвам парламента. У краіне працягваецца пераслед людзей па палітычных матывах, знікаюць вядомыя палітыкі і журналісты. Апазіцыя не мае доступ да дзяржаўнага тэлебачання і газет. Выбарчы кодэкс не гарантуе празрыстасці выбарчага працэсу і дазваляе здзейсняць фальсіфікацыю па прынцыпу "важна не тое, хто як галасуе, а хто галасы падлічвае".

У заключнай рэзалюцыі з'езда партыя пастанавіла адмовіцца ад удзелу ў выбарчым фарсе. Прыняты сцэнарый актыўнага байкоту выбараў у Палату прадстаўнікоў. АГП робіць стаўку на прэзідэнцкія выбары, якія адбудуцца вясной наступнага года. Плануецца ў снежні вылучыць адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сіл."

***Пётр Галыня, член Нацыянальнага камітэта АГП, настаўнік Рубежскай сярэдняй школы***

# МАРШ СВАБОДЫ – 3




1 кастрычніка ў Мінску, а восьмага ў 12 буйных гарадах Беларусі адбудзецца "Марш Свабоды" – акцыя апазіцыі за праўду і справядлівасць. Вось як тлумачаць ідэю правядзення "Марша Свабоды-3" лідэры апазіцыйных партый і арганізацый.

***Анатоль Лябедзька,*** *старшыня АГП:* "Марш Свабоды" - акцыя для тых, хто хоча перамен, каму надакучылі хлусня і жабрацтва сённяшняга жыцця".

***Вінцук Вячорка,*** *старшыня БНФ "Адраджэнне":* "Мы ідзём на гэты "Марш", каб паказаць Беларусі і свету, што нам патрэбны сумленныя выбары, што нам патрэбна Вольная Беларусь".

***Дзімітрый Бандарэнка,*** *каардынатар Хартыі-97:* "Я ўпэўнены, што "Марш Свабоды" стане самай яркай і моцнай акцыяй дэмакратычных сіл Беларусі за апошнія гады."

**Мы маем права на свабоду!**
**Мы маем права на незалежнасць!**
**Мы маем права на лепшае жыццё!**
**Мы абавязаны змагацца дзеля праўды і справядлівасці, дзеля будучыні нашых дзяцей.**

Годнае жыццё – гэта не толькі "чарка і шкварка", гэта цікавая высокааплочваемая праца, якасная медыцына, добрая адукацыя для дзяцей, знаёмства з мірам. Палякі і чэхі, балты і венгры , харваты і славенцы за дзесяць гадоў адрадзілі свае дзяржавы і зараз жывуць сыта і камфортна. Яны захацелі стаць вольнымі - і сталі. Мы, як і яны, працавітыя і здольныя. Мы таксама хочам шчасця, радасці і дабрабыту для сябе і сваіх дзяцей. **Мы хочам змяніць жыццё да лепшага!**

У Віцебску "Марш свабоды" адбудзецца ў нядзелю 8 кастрычніка. Збор у 12 гадзін на Ратушнай плошчы.

# ЦІ ПАТРЭБНЫ НАМ 110 МІНІСТРАЎ?

Дзейнасць сённяшняй Палаты прадстаўнікоў не вельмі афішуецца. Мы часам не ведаем, якія яны там абмяркоўваюць законы, за што галасуюць, якія маюць прывілеі, якія ў іх заробкі. А гэта даволі цікава.

Закон "Аб статусе дэпутата Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь"

Артыкул 32. *Забеспячэнне матэрыяльна-фінансавых умоў для ажыццяўлення дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі сваіх паўнамоцтваў*

Усе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў , члены Савета Рэспублікі, якія працуюць на прафесійнай аснове, незалежна ад займаемай у Палаце прадстаўнікоў, Савеце Рэспублікі пасады, за выключэннем старшынь палат Парламента, іх намеснікаў, атрымліваюць аднолькавае **штомесячнае ўтрыманне ў памеры заработнай платы міністра.**

Вось так. Цяпер зразумела чаму тыя, хто зараз працуе ў парламенце хочуць зноў быць абранымі. А выбаршчыкі-падаткаплацельшчыкі і не ведаюць, што саджаюць сабе на шыю яшчэ 110 міністраў.

*8 верасня – Дзень беларускай вайсковай славы*

# ГЕТМАН КАНСТАНЦІН АСТРОЖСКІ



Князь Канстанцін Астрожскі (1460-1530) належаў да старажытнага роду Астрожскіх, нашчадкаў тураўскіх і пінскіх князёў. Ен быў адным з галоўных герояў бітвы пад Воршай, якая адбылася падчас чарговага нападу Маскоўскага войска на Беларуска-Літоўскую дзяржаву. Пад камандваннем Астрожскага 30-тысячнае беларускае войска разграміла 80-тысячную маскоўскую армію.

Канстанцін Астрожскі ўжо ў маладыя гады выяваў супраць крымскіх татараў, якія знаходзячыся ў саюзе з князем маскоўскім, пастаянна нападалі на землі Украіны і Беларусі. Нейкі час ён знаходзіўся ў Кракаве пры польскім каралеўскім двары. Вясной 1497 года адбіваў напады татарскіх загонаў на Валынь і каля Мазыра. Войска дагнала татараў і разграміла іх, вызваліўшы тысячы палонных хлопцаў і дзяўчат, якіх татары вялі ў Крым прадаваць на нявольніцкіх рынках. Летам 1497 года Астрожскі ўдзельнічаў у паходзе на берагі Чорнага мора. Аддзелы Астрожскага разгрямілі каля Ачакава войска ханскага сына Мехмет Гірэя і ўзялі "царэвіча" ў палон. За гэтыя перамогі Канстанцін Астрожскі быў прызначаны на пасаду гетмана Вялікага княства Літоўскага.

Усяго Канстанцін Астрожскі перамагаў татараў у больш як 60 бітвах. Ен наладзіў добрую конную выведку, забараніў сваім жаўнерам запальваць кастры а ежу рыхтаваў загадзя. Аддзелы падыходзілі ранкам да татарскага табару і з першымі промнямі сонца атакавалі непадрыхтаваных да бітвы татараў.

У 1500 годзе Астрожскі пацярпеў паразу ад маскоўскага войска каля Дарагабужа. У яго было 8 тысяч чалавек, у маскоўскім войску 20 тысяч. Бітва цягнулася 6 гадзін. Палова войска Астрожскага загінула, астатнія трапілі ў палон. У няволю трапіў і сам Астрожскі. Яго трымалі ў Волагдзе і ў Маскве. Толькі ў 1507 годзе ён здолеў уцячы з палону. За ім гналіся, але па дарозе Астрожскі зайшоў памаліцца ў царкву і пагоня праскочыла міма.

Польскі кароль Жыгімонт добра сустрэў палкаводца, вярнуў яму паду гетмана і новыя маёнткі. У 1508 годзе Астрожскі ўдзельнічаў у новай вайне з масковіяй. Ен вызваліў ад аблогі Менск, потым пайшоў на Воршу са сваім 10-тысячным войскам. Але 50-тысячная Маскоўская армія бою не прыняла і адступіла.

У 1512-1514 гадах К. Астрожскі камандаваў войскам, адбіваючы чарговы напад з Масквы. Ен праславіўся перамогай у Аршанскаў бітве, якая адбылася 8 верасня 1514 года на Крапівенскім полі паміж Воршай і Дуброўнам. Выдатны расійскі гісторык і пісьменнік Карамзін напісаў, што войскі Вялікага княства Літоўскага "ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі ў Дняпры і Крапіўне і цеамі ўсеялі палі...Толькі ноч і лясы выратавалі астатніх" Паводле звестак летапісцаў падчас бітвы і пагоні маскоўскае войска страціла 40 тысяч чалавек. Больш за 5 тысяч трапіла ў палон. Бітву пад Воршай адзначылі і тагачасныя замежныя хронікі. У Германіі выйшаў друкаваны лісток з апісаннем гэтай бітвы.

Яшчэ адна перамога была атрымана Астрожскім у канцы вайсковай кар'еры. У 1527 годзе яго войска разграміла крымскіх татараў за Кіевам. Былі вызвалены тысячы захопленых сялян і мяшчан. Астрожкі вызначаўся сваёй стратэгіяй. Ен намагаўся гнацца за праціўнікам далёка, нападаць знянацку, падзяляць на часткі варожае войска, мяняць кірунак атакі. Пад Воршай ён прымяніў новы прыём – навёў масу маскоўскіх коннікаў падчас запланаванага адступлення пад



**Герб князя К.Астрожскага**

агонь сваёй артылерыі, што выклікала паніку ў шэрагах маскоўцаў.

За свае перамогі Канстанцін Астрожскі карыстаўся многімі прывілеямі. Ен быў другім па колькасці падданых землеўладальнікам у краіне. Свой прэстыж К. Астрожскі выкарыстаў для ўзмацнення пазіцый праваслаўнай царквы.

Канстанцін Астрожскі ўвайшоў у гісторыю, як адзін са славутых палкаводцаў свайго часу.

***Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, доктар гістарычных навук, прафесар***

# П'яная аса

*Гэта было...*

Гэту гісторыю мне расказаў спадарожнік у аўтобусе. Ен працуе ў калгасе ў Докшыцкім раёне. У калгасе ёсць карусельная сушылка: на круглую платформу нагружаецца ворах, платформа паварочваецца і трапляе ў сушыльную камеру.

Аднойчы напрыканцы жніўня раніцай уключылі сушылку, платформа пачала свой павольны рух і тут з сушыльнай камеры выехала... недапітая бутэлька віна. Напэўна стаяла там "з учарашняга". Усе, як зачараваныя, сачылі за рухам бутэлькі, ахопленыя раптоўнай смагай, але паспытаць ніхто не спяшаўся. Нарэшце падштурхнулі аднаго: "Лёнік, ідзі, глянь што там!"

Лёнік падыйшоў, нахіліўся, доўга прыглядаўся і прынюхваўся, а потым узяў і выпіў усё без астатку, нават апошнія кроплі вытрас, задраўшы галаву, сабе ў рот. І раптам прысеў, як падсечаны, закрыўшы рукамі твар. Балельшчыкі, абураныя, што з імі не падзяліўся, спачатку зларадна засмяяліся, а потым захваляваліся: хватануў відаць штось "не тое", а мо там атрута ад жукоў ці яшчэ якая трасца. Лёнік доўга маўчаў, а калі разагнуўся і замахаў рукамі, то слоў не атрымалася, адно мармытанне незразумелае. Не мог жа ён ачмурэць так хутка! Аказваецца, у бутэльцы сядзела аса, якая уджаліла небараку прама за губу, а пакуль той перацярпеў боль, губа распухла. Было невядома: смяяцца ці спачуваць, таму гледачы хуценька разыйшліся і кожны заняўся сваёй справай, толькі бедны Лёнік доўга яшчэ прыкладаў да губы халоднае жалеза.

# Бык павесіўся

Гэты зусім невясёлы выпадак адбыўся ў адной з вёсак нашага раёна. Жанчына несла ў двор траву на вязанцы за спіной. На клевярку быў навязаны бычок, які замест таго каб скубсьці траву, стараўся выхапіць з вязанкі гатовую. "А каб ты задавіўся, травы табе мала!" – адмахнулася ад яго гаспадыня і пайшла далей. Вытрасла ў двары траву, зайшла ў хату. Раптам дачка крычыць з вуліцы: "Мама, наш бык павесіўся!". "Сціхні, што ты абы што крычыш, суседзі падумаюць, што звар'яцела", - абурылася жанчына. А калі выбегла на агарод, то ўбачыла, што бык сапраўды вісіць на яблыні, амаль не дастаючы зямлі заднімі нагамі. Яблыня мела развілку, бык нейкім чынам засунуў у тую развілку галаву, а выцягнуць назад не змог. І чым больш ірваўся, тым мацней заціскалася ў развілку шыя. Так і не змаглі яго вырataваць.

***В. ГРАКУН***

## У БЕЛАРУСІ САМЫ ДАРАГІ БЕНЗІН

У верасні цэны на нафтапрадукты ў Беларусі павышаліся аж чатыры разы: першага, сёмага, шаснадцатага і дваццаць шостага. Пасля апошняга павышэння яны пераўзышлі аналагічныя паказчыкі суседніх краін СНД. Зараз у доларавым эквіваленце цэны выглядаюць так:

| Марка паліва | Беларусь | Расія | Украіна | Малдова |
|---|---|---|---|---|
| Бензін А -76 | 0, 39 | 0, 20 | 0, 29 | 0, 41 |
| Бензін А – 92 | 0, 49 | 0,24 | 0, 31 | 0, 43 |
| Дыз. паліва | 0, 36 | 0,21 | 0, 27 | 0, 32 |

А зарплата ж у нас не самая вялікая. Прыехалі!




# Анекдоты

* * *

- Скажыце, гэта ўжо рынкавы сацыялізм, ці будзе яшчэ горш?

* * *

- Што агульнага паміж сапёрам і рэдактарам газеты на Беларусі?
- І той і другі памыліцца можа толькі адзін раз.

* * *

На сельскую гаспадарку ўздзейнічаюць 5 асноўных фактараў: вясна, лета , восень, зіма і прэзідэнт.

* * *

- Ці ёсць на Беларусі культ асобы?
- Культ – ёсць, асобы – няма.

* * *

На паседжанні Палаты прадстаўнікоў. Дэпутат выступае з прамовай і кажа, што жыццё становіцца ўсё лепшым і лепшым. Праз 30-40 гадоў Беларусь будзе працвітаючай дзяржавай...

- Шкада, што толькі нас ужо не будзе, уздыхае спікер.
- Не "шкада", а "таму што".

* * *

Мы будуем камунізм у адной асобна ўзятай за горла краіне

* * *

Нашым чыноўікам стала нечага красці. Калі ласка, заплаціце налогі.

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы ", № 14, верасень 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч ,Уладзімір Асокін. Кампьютэрны дызайн і вёрстка:А.Каліноўскі .
Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі", Распаўсюджваецца бясплатна.
Тэл. 2 – 26 – 93, 211 350, Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21.